



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12 ліпеня 2019 года №28 (1263) 18+


# Калі ўбачыла сотню, закрычала

Віляйчанка атрымала найвышэйшы бал на ЦТ па англійскай мове

старонка 5

На фота: выпускніца вілейскай гімназіі №2 Ксенія Семяновіч.
Фота Аксаны ЯРАШОНАК.





## «А дзе ўзяць ваду, калі прырода не дае?»

Гідролагі – пра магчымую дапамогу Віліі ў Літве за кошт Вілейскага вадасховішча

старонка 2

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/






Уладзімір Мажэйка.

## Галоўны доктар Астравецкай ЦРБ стаў кандыдатам медыцынскіх навук

АСТРАВЕЦ

2 ліпеня галоўны доктар Астравецкай ЦРБ **Уладзімір Мажэйка** атрымаў навуковую ступень кандыдата медыцынскіх навук.

Мажэйка абараніў кандыдацкую па тэме «Тэлемедыцынскія тэхналогія пры арганізацыі першаснай медыцынскай дапамогі насельніцтву».

Уладзімір Мажэйка з'яўляецца першым і пакуль адзіным кандыдатам навук на Астравеччыне, які сваё вучонае званне пацвярджае там жа, дзе яго атрымаў – у Астравецкай цэнтральнай раённай бальніцы.

Мажэйка – галоўны доктар цэнтральнай раённай бальніцы з мінулага года. Да гэтага ён працаваў хірургам і намеснікам галоўнага доктара.

**Паводле ostrovets.by.**

## Устанавілі новы тэмпературны мінімум

ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

Яшчэ нядаўна ў рэгіёне была спёка, але першыя дні ліпеня выдаліся халоднымі.

Больш за тое, у Вілейцы і Валожыне ў ноч на 4 ліпеня устаноўлены новыя тэмпературныя мінімумы.

Ноччу ў Вілейцы было толькі +6,6. Мінулы рэкорд быў у 1992 годзе – +7.

У Валожыне – +6,5. Пабіты рэкорд 2008 года – +8,3.

**Паводле БелТА.**

## У Маладзечне падтрымаюць прадпрымальнікаў

МАЛАДЗЕЧНА

Праект міжнароднай тэхнічнай дапамогі «Падтрымка эканамічнага развіцця на мясцовым узроўні ў Беларусі» рэалізуюць у 12 раёнах краіны.

Пілотнымі рэгіёнамі сталі Бярозаўскі і Кобрынскі раёны Брэсцкай вобласці, Браслаўскі і Аршанскі Віцебскай вобласці, Брагінскі, Жлобінскі і Хойніцкі Гомельскай вобласці, Лідскі раён Гродзенскай вобласці, Барысаўскі і Маладзечанскі раёны Мінскай вобласці, Быхаўскі і Хоцімскі раёны Магілёўскай вобласці.

У межах праекта прааналізуюць прадпрымальніцкі патэнцыял раёнаў, распрацуюць планы развіцця малога і сярэдняга бізнесу, будуць навучаць спецыялістаў, удасканаляць нарматыўна-прававую базу.

Чакаецца, што не менш за 150 ініцыятыў атрымаюць прамую фінансавую падтрымку, больш за 500 чалавек наведаюць трэнінгі.

Праект фінансуецца Еўрапейскім саюзам і рэалізуецца Праграмай развіцця ААН (ПРААН) у партнёрстве з Міністэрствам эканомікі Беларусі. Ён будзе доўжыцца да 31 студзеня 2022 года.

Агульны бюджэт праекта складае 9,5 мільёна долараў. Яго мэта – падтрымка эканамічнай ініцыятывы, канкурэнтаздольнасці і інавацый для інклюзіўнага развіцця на мясцовым узроўні.

**Паводле БелТА.**

## Ладзяць акцыю «Ствары дабро»

АШМЯНЫ

У Ашмянах валанцёры аддзялення дённага знаходжання для грамадзян пажылога ўзросту і валанцёры СШ №2 працягваюць акцыю **«Ствары дабро»**.

Іх дзейнасць рэалізуецца ў трох кірунках:

– падтрыманне парадку на воінскіх пахаваннях;

– уборка веладарожкі ва ўрочышчы Сухая;

– аказанне дапамогі пажылым людзям і наведнікам дённага знаходжання.

**Паводле osh.by.**



На Вілейскім вадасховішчы.

# «А дзе ўзяць ваду, калі прырода не дае?»

## Гідролагі – пра магчымую дапамогу Віліі ў Літве за кошт Вілейскага вадасховішча

**Літва папрасіла Беларусь дапамагчы аднавіць узровень вады ў рацэ Віліі (Нярыс), якая працякае па абедзвюх краінах, з-за рэзкага падзення ўзроўню вады ў выніку засухі, заявіла трэцяга ліпеня Міністэрства навакольнага асяроддзя.**

ВІЛЕЙКА

Міністр Кястуціс Мажэйка праінфармаваў Міністэрства прыродных рэсурсаў Беларусі аб тым, што рака Нярыс (Вілія) на тэрыторыі Літвы знаходзіцца ў крытычнай сітуацыі.

### Літва спадзяецца на дапамогу Вілейскага вадасховішча

Па словах міністра, зніжэнне ўзроўню вады пагражае экасістэмам, флоры і фаўне Нярыса, а таксама суднаходству ў Літве і Беларусі.

> **«Мы спадзяёмся, што суседзі прымуць да ўвагі сітуацыю пры рэгуляванні ўзроўню вады ў Нярысе. Яны могуць запусціць больш вады і гэтак дапамагчы воднай флоры і фаўне», – прыводзяцца ў паведамленні словы Мажэйкі.**

Паводле службы гідралогіі, узровень вады ў Віліі на тэрыторыі Літвы крытычна нізкі: у цяперашні час на 41 см ніжэйшы за сярэдні ўзровень ліпеня і на 73 см ніжэйшы за сярэднегадавыя значэнні.

> **Вілія (па-літоўску Нярыс) цячэ праз Вільню, Кернаву і ўпадае ў Нёман каля Каўнаса.**

Ля вытокаў Віліі знаходзіцца Вілейскае вадасховішча, таму ў Беларусі ёсць магчымасць павысіць узровень вады ў рацэ, адкрыўшы шлюзы, адзначае Дэлфі.

### Гідролагі: у Вілейскім вадасховішчы ўзровень вады значна панізіўся

Мы звязаліся з Цэнтральным навукова-даследчым інстытутам комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў і спыталі, ці сапраўды ў Беларусі ёсць такая магчымасць.

Спецыялісты з аддзела маніторынгу воднага кадастра паведамілі, што гэты год сапраўды маловодны. Стала менш вады ў рачных сцёках.

– Усё тлумачыцца натуральнымі прычынамі, – кажа начальнік аддзела **Уладзімір Карнееў**.

> **– Сёлетняя вясна была сухая. Рэкі не назапасілі патрэбнай колькасці вады. Істотна ніжэйшым стаў узровень вады ў Вілейскім вадасховішчы. Таму я не ўяўляю, з чаго мы зможам дапамагчы. Дзе ж узяць вады, калі прырода не дае?**

Адвод вады ў Вілейска-мінскую водную сістэму пакуль не змяніўся.

Маловоднасць, па словах спецыяліста, уласцівая сёлета большасці беларускіх рэк. І вінаваты ў гэтым не чалавек, а клімат.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Даведка «РГ»
Вілія, або Вялля (у Літве: Neris – Нярыс) – рака ў Беларусі і Літве, правы прыток Нёмана. Даўжыня 498 кіламетраў, у Беларусі – 264 кіламетры. Асноўныя прытокі: Сэрвач, Страча, Жэмяйна, Нарачанка, Швятойня, Сластаўка, Дзвінаса, Ілія, Сянканка, Ашмянка, Смердзія. Усяго ў басейне ракі больш за 40 каналаў агульнай даўжынёй каля 300 кіламетраў. Пачынаецца з невялікага балота за кіламетр на паўночны ўсход ад вёскі Вялікае Поле Докшыцкага раёна, перасякае мяжу з Літвой за два кіламетры на паўночны захад ад вёскі Жарнэлі Астравецкага раёна, упадае ў Нёман на тэрыторыі Літвы каля Каўнаса. На рацэ створанае Вілейскае вадасховішча, частка вады якога па Вілейска-Мінскай водней сістэме перапампоўваецца ў раку Свіслач.


Фота alena-flowers.ru.

На чарніцах можна добра зарабіць.

# На чарніцах можна назбіраць на тэлефон ці канапу

СМАРГОНЬ
МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Для многіх лета – магчымасць зарабіць на мару дарамі лесу. Уздоўж дарог, на міні-рынках і базарах прадаюць ягады. І так слоік за слоікам гандляры могуць назбіраць на сур'ёзныя пакупкі.**

Наталля з Вілейскага раёна збірала чарніцы з самага дзяцінства. Ездзілі ў лес усёй сям'ёй – бацькі, сёстры і брат. Збіралі рукамі, кожны ў свой кубачак.

Ужо гадоў сем, як жанчына збірае ягады на продаж або здае ў пункты прыёму.

Прадаваць чарніцы ля дарогі ў Наталлі не атрымліваецца. Трэба мець час, каб стаяць з таварам, а яна мае асноўную працу.

– Звычайна ў ягады ездзем або раніцай перад працай, або пасля работы. Бывае так, што ездзім і два разы на дзень.

Наталля звычайна выбіраецца з сяброўкамі. Калі спякотна, збіраюцца так, каб у шэсць раніцы пачаць збіраць.

**Калі шмат ягад, то дзесяцілітровае вядро Наталля збірае за гадзіну-паўтары. Калі ж няшмат, то на адно вядро можа спатрэбіцца тры гадзіны.**

Спачатку жанчыны едуць у тыя месцы, дзе дакладна ведаюць, што шмат чарніц. Калі нехта падкажа іншыя, могуць паехаць і туды.

З усіх гадоў самым чарнічным выдаўся мінулы год. Калі ў адным лесе чарніц мала, едуць у іншы.

На выручаныя грошы жанчына набывае прадукты, запчасткі да аўтамабіля, паліва.

Многія збіраюць ягады, каб аддаць даўгі або пагасіць крэдыт. Сабе пакідае літры чатыры або пяць на варэнне, дзеці больш ядуць свежыя ягады.

**Нямала сярод збоpшчыкаў падлеткаў. Звычайна яны збіраюць грошы на сучасныя мабільныя тэлефоны. Здаралася, што мама з дочкамі за лета на чарніцах зарабілі на прыгожы мяккі куток з канапай і двума крэсламі.**

### Сёлета з чарніцамі слаба

Пра тое, як ідзе нарыхтоўка чарніц, мы распыталі ў Смаргонскім райспажыўтаварыстве:

– Сёлета з чарніцамі слаба, ды яшчэ камерсанты душаць. Летась ураджай быў нашмат лепшы, нарыхтавалі каля сямі тон. А ў гэтым годзе яшчэ і тоны няма.

**За адзін кілаграм ягад таварыства плаціць ад 3,20 да 3,50 рубля. Здаваць можа жыхар любога раёна.**

Колькі часу працягнецца збор чарніц, залежыць і ад ураджаю, і ад актыўнасці зборшчыкаў.

### Што яшчэ прадаюць на базары

Ліпень – гарачы час для ягад. На рынку прадаюць як садовыя дары, так і лясныя.

10 ліпеня самымі папулярнымі ягадамі былі чарніцы. За паўлітровы слоік ягад з Вілейскага раёна прасілі чатыры рублі. Усяго было каля 15 прадаўцоў чорных ягад.

Затое толькі адзін прадаваў клубніцы. За пяцілітровае вядро прасіў 18 рублёў.

Многія прадавалі маліны – па тры рублі за паўлітра. Такі ж аб'ём агрэсту прадаюць за два рублі. Кілаграм чарэшні прапанавалі за 6,50 рубля.

Зоя ХРУЦКАЯ.

**ЛІЧБА НУМАРА**

на **51** хвіліну

у сярэднім за дзень жанчыны маюць менш вольнага часу, чым мужчыны

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.07 | 11.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0471 | **2.0467** |
| Еўра | 2.3117 | **2.2954** |
| Злоты, 10 | 5.4560 | **5.3766** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2371 | **3.2091** |
| Грыўня, 100 | 7.8175 | **7.9237** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **2.07** | **10.07** |
| Еўра | 2.3000/2.3200 | **2.2800/2.3050** |
| Долар ЗША | 2.0380/2.0550 | **2.0300/2.0530** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **2.07** | **10.07** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,20 | **3,70** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,37** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,50 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,90** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,22 | **2,22** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,20 | **1,30** |
| Агуркі, 1 кг | 0,85 | **0,85** |
| Баклажаны, 1 кг | 3,00 | **2,00** |
| Бульба, 1 кг | 1,50 | **1,30** |
| Буракі, 1 кг | 1,40 | **1,30** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Морква, 1 кг | 1,80 | **1,70** |
| Лісічкі, 500 мл | – | **4,00** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **2,99** |
| Перац, 1 кг | 6,30 | **5,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,50 | **2,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Дыня, 1 кг | 3,50 | **3,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,29 | **1,20** |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Слівы, 1 кг | 4,00 | **3,50** |
| Чарніцы, 500 мл | 2,50 | **2,50** |
| Чарэшня, 1 кг | 5,90 | **6,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,40** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Мужчыну будуць судзіць за сэксуальныя адносіны з непаўнагадовай

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Пра гэта карэспандэнту расказаў намеснік пракурора Вілейскага раёна **Андрэй Жукоўскі**.

З 15-гадовай дзяўчынай з Вілейскага раёна 26-гадовы жыхар Мядзельшчыны пазнаёміўся на дыскатэцы на Вілейшчыне. Пачалі сустракацца.

Стасункі доўжыліся на працягу 2017-2018 гадоў. Былі і сэксуальныя адносіны па ўзаемнай згодзе, кажа Андрэй Жукоўскі.

Падазраванага да суда не заключалі пад варту. Цяпер ён пад падпіскай аб нявыездзе.

Па словах Андрэя Жукоўскага, фігурант ужо быў судзімы раней за злачынствы, звязаныя з маёмасцю.

Мужчыну будуць судзіць па артыкуле «Палавыя зносіны і іншыя дзеянні сэксуальнага характару з асобай, якая не дасягнула 16-гадовага ўзросту, здзейсненыя паўторна».

Максімальнае пакаранне за такое злачынства – да дзесяці гадоў пазбаўлення волі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Каля Гарадка пашкодзілі помнік ахвярам Халакосту

МАЛАДЗЕЧНА

Каля Гарадка, што ў Маладзечанскім раёне, пашкодзілі помнік забітым яўрэям падчас Другой сусветнай вайны.

Аб гэтым «Рэгіянальнай газеце» паведаміў **Аляксей Жахавец**, які і знайшоў пашкоджаны помнік.

– Учора з дзяўчынай ехалі міма гэтага помніка. Выйшлі з машыны, гляджу, а помнік павернуты. Я падышоў да агароджы, паправіў яго. Сёння схадзіў у міліцыю.

Па словах Жахаўца, вецер не мог такім чынам пашкодзіць помнік. І, на яго думку, гэта нехта зрабіў наўмысна.

– Помнік стаіць на загваздцы, яго трэба круціць. Я моцна пастараўся, каб вярнуць усё на месца.

**Настасся УТКІНА.**

## Затрымалі падводных рыбакоў-парушальнікаў

МЯДЗЕЛ

Работнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету ад 16 чэрвеня да 6 ліпеня ўстанавілі на возеры Мядзельскае два правапарушэнні.

Парушальнікі хацелі незаконна здабыць рыбу падчас падводнага палявання.

За такое парушэнне прадугледжаная адказнасць – штраф ад 510 да 1275 базавых велічынь з канфіскацыяй прылад здабычы рыбы або без канфіскацыі.

Варта яшчэ раз нагадаць грамадзянам, што на тэрыторыі Мядзельскага раёна падводнае паляванне дазваляюць толькі на азёрах Воўчын і Рудакова.

Трэба мець дазвол на падводнае паляванне, пазначаны ў пуцёўцы на платнае рыбалоўства.

Па ўсіх выпадках парушэння прыродаахоўнага заканадаўства просьба паведамляць па тэлефоне 8 01797 50740 у Мядзельскую міжраённую інспекцыю альбо на тэлефон даверу Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь – 8 017 39 00000, або на тэлефон 102.

Уся атрыманая інфармацыя ў абавязковым парадку будзе праверана.

**Раман ЛЕСІН,**
**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету**

## У ДТЗ жанчына загінула, а яе муж у бальніцы

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя здарылася 5 ліпеня каля 17:20.

Маладзечанскія следчыя ўстанаўліваюць абставіны здарэння.

Як расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**, аварыя здарылася на аўтадарозе Мінск-Маладзечна-Нарач.

50-гадовы кіроўца, жыхар Маладзечанскага раёна, на аўтамабілі «Рэно» каля вёскі Мясата на нерэгулюемым пешаходным пераходзе наехаў на сямейную пару.

У выніку 49-гадовая жанчына загінула на месцы. Яе 54-гадовага мужа забралі ў цяжкім стане ў бальніцу.

Следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека».

Па папярэдніх дадзеных кіроўца быў цвярозы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота УУС Мінаблвыканкама.

На месцы здарэння.

# Кіроўца аўтобуса Валожын–Мінск памёр за рулём

ВАЛОЖЫН

**Здарэнне адбылося 9 ліпеня каля гадзіны дня паблізу Ракава.**

Кіроўцу рэйсавага аўтобуса Валожын-Мінск раптам стала кепска за рулём. Ён з'ехаў на ўзбочыну і ўрэзаўся ў дрэва.

«60-гадовы кіроўца нашага аўтапарка памёр за рулём. Праблемы з сэрцам. Раніцай ён прайшоў медагляд, усё было нармальна», – расказала «Нашай Ніве» дыспетчар валожынскай аўтастанцыі.

Памерлы кіроўца Іван С. сёлета трапіў на Дошку гонару Валожынскага раёна як лепшы работнік аўтатранспарту.

Як паведамляе афіцыйны прадстаўнік УУС Мінаблвыканкама **Сяргей Чабатароў**, з траўмамі забралі ў бальніцу пасажыраў: 85-гадовую жанчыну, 70-гадовага і 23-гадовага мужчын (апошняга пасля медыцынскай дапамогі адпусцілі дадому).

Адпаведныя службы высвятляюць прычыну смерці кіроўцы. На месцы здарэння працуюць супрацоўнікі ДАІ, следчыя, эксперты.

**Паводле «Нашай Нівы» і УУС Мінаблвыканкама.**

## Шукаюць мужчыну, што знік першага ліпеня

ВІЛЕЙКА

Вілейскі РАУС шукае зніклага без вестак Леаніда Леанідавіча Макарчыка, 1986 года нараджэння. 1 ліпеня Макарчык з'ехаў з дому ў Вілейку, яго месцазнаходжанне да цяперашняга часу невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 35 гадоў, рост 160-165 см, сярэдняга целаскладу, валасы прамыя светла-русыя, каротка стрыжаныя, вочы блакітныя, памер абутку 41.

**Асобыя прыкметы:** на левым перадплеччы татуіроўка неўстаноўленага ўзору. Мае шкодныя звычкі – злоўжывае спіртнымі напоямі, курыць.

**Быў апрануты:** спартыўная куртка цёмнага колеру з чырвонымі ўстаўкамі, футболка бірузовага колеру, джынсы сіняга колеру, красоўкі чорнага колеру.

Вілейскі РАУС просіць грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра месцазнаходжанне Леаніда Макарчыка, паведаміць па тэлефонах: 8 (01771) 5-26-02, 8 (029) 380-82-28 або па тэлефоне 102.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пацыент ударыў кіроўцу нагой па галаве. Той памёр

МАЛАДЗЕЧНА

Пятага ліпеня ў другой бальніцы ў Маладзечне пацыент, які не хацеў выходзіць з машыны «хуткай дапамогі», стукнуў па галаве нагой кіроўцу «хуткай». Той памёр.

Як расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**, 42-гадовага падазраванага затрымалі.

Маладзечанскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Хуліганства».

Следчыя праводзяць праверку. Канчаткова дзеянні падазраванага ацэняць пасля разнастайных экспертыз.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Калі прыехалі выратавальнікі, летняя кухня дагарала

ВІЛЕЙКА

Пра пажар паведамілі 5 ліпеня каля 14:00.

Сказалі, што нешта гарыць у вёсцы Галянова Куранецкага сельсавета.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, у адным з двароў дагарала летняя кухня. Па словах гаспадара, у будынку варылі корм для свойскай жывёлы.

Падчас пажару гаспадар быў дома. Калі ён у нейкі момант выйшаў на двор, то ўбачыў, што з-пад даху летняй кухні ідзе дым і вырываюцца языкі полымя.

Спачатку мужчына спрабаваў тушыць сам вадой са шланга. Калі ж зразумеў, што не атрымоўваецца, выклікаў спецыялістаў.

Пабудова згарэла цалкам.

Па папярэдняй прычыне, пажар здарыўся з-за печкі, што палілася ў летняй кухні, расказаў старшы інспектар нагляду і прафілактыкі **Дзмітры Кляшняк**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Калі ўбачыла сотню, закрычала

## Віляйчанка атрымала найвышэйшы бал на ЦТ па англійскай мове

**У родную гімназію №2 у Вілейцы ўжо амаль студэнтка Ксенія Семяновіч прыйшла сустрэцца з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты». А яшчэ забраць у намесніка дырэктара Паліны Ганчар узнагароды за чарговы прадметны конкурс.**



Ксенія з задавальненнем пазіравала за партай у роднай гімназіі.

ВІЛЕЙКА

Пра падрыхтоўку да цэнтралізаванага тэставання і першыя ўражанні пасля атрымання стабальнага выніку выпускніца гімназіі №2 Ксенія Семяновіч расказала чытачам «Рэгіянальнай газеты».

### Падрыхтавалася без рэпетытара

Англійскую мову Ксюша пачала вывучаць у гуртку ў дзіцячым садку. Але тады яна не ведала, што хоча звязаць жыццё з мовамі.

Усведамленне прыйшло ў 11 класе пасля перамогі на абласным этапе алімпіяды па англійскай мове. Тады і пачала займацца са сваім настаўнікам **Ігарам Балыкам**.

– Да рэпетытара не хадзіла, – прызнаецца дзяўчына. – Акрамя ўрокаў англійскай мовы, разы чатыры на тыдзень дадаткова займалася з настаўнікам Ігарам Балыкам. У маім высокім выніку вельмі значная яго заслуга. З настаўнікам разбіралі асобныя тэмы, працавалі над аўдзіраваннем – слухалі тэксты на англійскай мове.

Дома па выхадных, а часам і ў будныя дні пасля ўрокаў Ксюша самастойна рашала тэсты, а ў школе з настаўнікам разбіралі іх. Размоўнай практыкі ў англамоўным асяроддзі ў дзяўчыны пакуль не было.

### Была ўпэўненая: атрымаю не менш за 90 балаў

Прызнаецца, што ў высокім бале была ўпэўненая. Ведала: дакладна не менш за 90. На двух рэпетыцыйных тэставаннях, што адзінаццацікласнікі праходзяць яшчэ вучнямі школы, вынікі былі 96 і 92.

– На цэнтралізаванае тэставанне ездзіла ў Маладзечна. Калі ўсё скончылася, я выйшла з аўдыторыі і адразу ж палезла ў інтэрнэт. Запомніла заданні, у якіх сумнявалася. І пачала глядзець, ці правільна зрабіла. Калі пераканалася, што ўсё правільна, упэўненасць у высокім выніку стала яшчэ большай, – прыгадвае мая субяседніца.

Чакаць трэба было дзесяць дзён. І вось, калі прыйшоў час, Ксюша адкрыла патрэбны сайт, убачыла сваю сотню па англійскай мове і… закрычала.

– На крык прыбегла мама. Таму яна першая даведалася. Пасля пра стабальны вынік я паведаміла сябрам і класнаму кіраўніку паралельнага класа, з якой мы ў вельмі добрых адносінах, – кажа Ксенія.

Нядрэннымі былі і балы за ЦТ па іншых прадметах. Больш за 80 балаў дзяўчына набрала і па рускай мове, і па гісторыі Беларусі. Хаця, прызнаецца, да іх не рыхтавалася так мэтанакіравана, як да англійскай мовы. Адзінае: была ўважлівай на ўроках і набыла па гісторыі Беларусі кніжку з тэстамі, якія рашала самастойна.

### А магла б працягнуць дынастыю

Хутка Ксенія Семяновіч будзе падаваць дакументы ў Дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Там трэба абіраць другую мову для вывучэння. Якую, Ксенія пакуль не вызначылася. Кажа, падабаюцца іспанская і італьянская. Мама ўгаворвае абраць кітайскую.

Адразу мама не вельмі хацела, каб дачка ішла ў лінгвістычны. Але ўсё ж зразумела, што Ксюша хоча вывучаць менавіта мовы, і змірылася.

Першапачаткова мама хацела, каб дачка ішла на праграміста або ў вайсковую акадэмію. Там вучыцца старэйшы брат Ксюшы. А яе дзядуля – палкоўнік **Генадзь Лісоўскі** – узначальваў Вілейскі ваенкамат. На думку мамы, Ксенія магла б працягнуць дынастыю, але…

### Выдатніца, спявачка, танцорка, даследчыца

Ксенія Семяновіч мае поспехі не толькі ў вывучэнні англійскай мовы. Яны – залатая медалістка з сярэднім балам 10. Некалькі год запар перамагала ў раённым этапе алімпіяды па інфарматыцы.

Займалася навуковай дзейнасцю. Яе праца «Лялькі-неразлучнікі» на рэспубліканскім навукова-даследчым конкурсе стала лепшай у намінацыі «Культурная спадчына».

Дзяўчына спявае ў вакальным калектыве «Экспромт», танцуе ў харэаграфічным ансамблі «Карагод».

### Музычную школу скончыла два разы, але абрала мовы

А яшчэ Ксюша скончыла музычную школу. Прычым два разы. Спачатку – па класе фартэпіяна, а потым – па эстрадных спевах.

Прызнаецца, што доўгі час думала звязаць жыццё з музыкай. Таму і вызначылася з будучай прафесіяй толькі ў 11 класе.

– Лічу, што замежныя мовы даюць крыху больш магчымасцяў, чым музыка, – тлумачыць Ксюша свой выбар. – Але і музыку кідаць не збіраюся. Цяпер часам іграю дома на фартэпіяна для сябе. Думаю, што і ва ўніверсітэце змагу праявіць сябе ў музыцы.

– Раскажы, як здаць тэставанне на сто балаў? – пытаюся ў субяседніцы.

– Ой, нават не ведаю, – кажа дзяўчына. – У мяне часам такое адчуванне, што гэта само атрымалася.

І ўсё ж, падумаўшы, дае крыху парад: рашаць больш тэстаў мінулых гадоў, бо ўсе яны даволі падобныя. І старацца знайсці асацыяцыі, якія дапамогуць запомніць правілы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# У Іспаніі ўпершыню абароніць дысертацыю ў галіне беларускай літаратуры аўтар «РГ»

**Чацвертага верасня ў Мадрыдзе пройдзе абарона кандыдацкай дысертацыі Анхелы Эспіносы Руіс «Сімвалізм народнага паходжання ў прозе Яна Баршчэўскага і Густава Адольфа Бекера».**

Прадстаўленне першай навуковай працы ў галіне беларускай літаратуры ў Іспаніі адбудзецца ў зале «Salón de grados» на філалагічным факультэце Універсітэта Камплутэнсэ.

Абарона пачнецца а 11-й гадзіне і будзе праходзіць па-іспанску і па-беларуску. Абарона публічная: наведаць яе можа кожны ахвотны. У ліку сяброў камісіі – беларуская паэтка і літаратуразнаўца, выкладчык Беластоцкага ўніверсітэта (Польшча), доктар **Галіна Тварановіч**.

Анхела Эспіноса Руіс скончыла факультэт славянскай філалогіі Гранадскага ўніверсітэта (2015) і атрымала ступень магістра беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце (2017). Аўтарка лірычных зборнікаў «Раяль ля мора» (2015), Pomme de ciel (2017), «Колер крылаў» (2019), перакладчыца двухмоўнага зборніка выбраных вершаў М. Багдановіча на іспанскую мову «Згукі маёй Бацькаўшчыны» / Ecos de mi tierra (2017).

Анхела – пастаянны аўтар-калумніст «Рэгіянальнай газеты».

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Анхелай ЭСПІНОСАЙ РУІС.

Анхела Эспіноса Руіс.




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1983 г.в., на запчасткі. Т. (8-029) 8506435.*

• Нісан-Прымера, Альмера, 1996 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно 19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Фольксваген-Транспарцёр Т4, 1997 г.в. (8-029) 8732043.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Ваша аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-033) 6675566.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Матацыклы старыя і запчасткі К-750, Ява, Іж, Мінск. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Драздовіча з еўрарамонтам (рабілі для сябе з якасных матэрыялаў) і сучаснай новай мэбляй. Т. (8-029) 9263395.*

• 2-пакаёвая кватэра ў вёсцы Гарадзілава. Цана 21 000 рублёў. Т. (8-029) 9406199.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 2. Т. (8-029) 7039162.*

• Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом у вёсцы Нясцёркі на беразе вадасховішча (500 м), побач лес (200 м), гаспадарчыя пабудовы, пячное ацяпленне, па вуліцы праведзены газ. Цана дагаворная. Т. (8-033) 6915981.*

• Участак 16 сотак на беразе ракі Нарачанка. Т. (8-025) 7908663, +370 67656098 (вайбер, вацап).*

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у а.г. Залессе Смаргонскага раёна. 100 кв. м, водаправод, каналізацыя, печкі, камін, хлеў, сад 17 сотак. Новы, прыгожы, дагледжаны. Т. (8-029) 2650961.*

• Дом у а.г. Куранец Вілейскага раёна, секцыя, кніжная паліца. Т. дам. 39962 пасля 21:00, (8-033) 3452326, МТС.

• Дом у 1 км ад Маладзечна. 105 кв.м, 15 сотак, выгоды, газіфікаваны. Цана дагаворная. Т. (8-025) 5332047.

• Дом у в. Кавалі Ільянскага с/с, 5000 руб. Т. (8-029) 7722790.*

• Дом у Маладзечне на вул. Велікасельскай, 0,1 га, газ, вада. Т. (8-033) 6393440.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-пагрузчык Bobcat, зняцце глебы, планіроўка і г.д. Вышыня выгрузкі 3 м. ІП Кроер, УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважин) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай установкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліцоў, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Матаблок МТЗ 05 з прычэпам. Цана дагаворная. Т. (8-025) 5332047.

• Трактар самаробны, матаблок, прычэп і навясное абсталяванне. Т. (8-029) 6257764.*

• Трактар МТЗ-80 (з пагрузчыкам, адвалам, каўшом, віламі), да яго акучнік, культыватар, плуг. Т. (8-029) 1598893.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Каза дойная, Нядорага. Т. (8-01771) 22305, (8-033) 6008539.

• Парасяты свойскія буйной белай пароды, 6 тыдняў, па 100 рублёў. Т. (8-029) 8771541, (8-029) 2523254.

**Іншае**

• Балон газавы, канапа, халадзільнік, будаўнічая тачка, торфабрыкет. Т. (8-029) 7060485.*

• Дровы колатыя, калодкі. Ваш памер. Т. (8-029) 6106061.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898, Вэлком.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-0290 2572438.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель-экспедытар, міжнароднік. ІП Янковіч В.В. УНП 500006889. Т. (8-029) 1338497.*

• Тэрмінова брыгада цесляроў-бетоншчыкаў. Т. (+375) 291230716, (+375) 292233002, WhatsApp, Viber.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Брыгада дахаўшчыкоў выканае любыя віды даху; рэканструкцыя старых дахаў. Т. (8-029) 5080891.*

• Выкладчык біялогіі і хіміі шукае падпрацоўку. Т. (8-029) 7615690.*

## Бібліятэка перамагла ў рэспубліканскім конкурсе

**АСТРАВЕЦ**

Рэспубліканскі конкурс «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры» праводзіўся ў 27 раз. Астравецкія бібліятэкары ўдзельнічалі ў намінацыі «За пошукавую і даследчую працу» – і атрымалі трэцюю прэмію (30 базавых велічынь, ці 765 рублёў). І ў гэтым ім дапамагла сама Астравеччына – менавіта яна стала галоўнай тэмай конкурснай работы.

Да гэтай перамогі супрацоўнікі аддзела бібліятэчнага маркетынгу ішлі шмат гадоў: рабілі экспедыцыі, занатоўвалі ўспаміны сталых жыхароў раёна, збіралі этнаграфічны матэрыял.

У выніку ў іх склалася краязнаўчая база, дзе захоўваюцца легенды і паданні Астравецкага краю, летапісы вёсак, даведкі пра знакамітых людзей раёна, гісторыка-культурныя каштоўнасці і іншая інфармацыя.

Пазнаёміцца з гэтай базай можна на сайце раённай бібліятэкі.

**Паводле ostrovets.by.**

## Правядуць абласныя спаборніцтвы па выратавальным шматбор'і

**МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА**

12 ліпеня на базе Мядзельскай выратавальнай станцыі, на возеры Мястра, зладзяць абласныя спаборніцтвы па выратавальным шматбор'і сярод штатных работнікаў станцый і выратавальных пастоў.

Як расказаў карэспандэнту начальнік Мядзельскай выратавальнай станцыі **Дзмітры Дамшэль**, з нашага рэгіёна ў спаборніцтвах паўдзельнічаюць выратавальнікі з Вілейкі, Мядзела і Нарачы.

Удзельнікі пакажуць сваё майстэрства ў чатырох конкурсах:

плаванне на сто метраў з перашкодамі. На дыстанцыі трэба будзе паднырнуць чатыры разы;

выратаванне манекена. Падплыць, схапіць і выцягнуць на бераг;

падача выратавальнага круга;

выратаванне манекена на лодцы.

Для штатных супрацоўнікаў будзе яшчэ адзін конкурс – выезд катара па трывозе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ужо можна лавіць сома

Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету інфармуе, што, паводле Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь, ад 2 ліпеня да 31 кастрычніка на Міншчыне можна лавіць сома звычайнага.

Але варта ведаць, што прамысловая мера сома звычайнага пры аматарскім рыбалоўстве складае не менш за 70 сантыметраў.

Рыбаловам-аматарам дазваляецца лоўля ў рыбалоўных угоддзях, за выключэннем аддадзеных у арэнду (карыстанне), дзе арганізаванае платнае аматарскае рыбалоўства, не больш за пяць кілаграмаў рыбы на аднаго рыбалова ў суткі і адной рыбы, калі агульная вага з улікам яе вагі ў суме будзе перавышаць пяць кілаграмаў, ці адной рыбы, вага якой перавышае пяць кілаграмаў.

Вінаватыя ў здабычы сома звычайнага з перавышэннем нормы вагі, а таксама меншага за прамысловую меру будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Калі шкода ад незаконнай лоўлі складзе сто і больш базавых велічынь, – да крымінальнай адказнасці.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету.**

## Дашкольнікі адзначылі Дзень вызвалення

**СМАРГОНЬ**

Другога ліпеня ў яслях-садку №13 у Смаргоні ладзілі музычна-літаратурнае свята «Мірна жыць – шчаслівым быць».

Дзеці былі ў гасцях у Васілісы, дзе чыталі вершы пра Беларусь, слухалі аповед пра герояў-вызваленцаў нашага горада.

Свята працягнулася беларускімі народнымі гульнямі «Ліскі», «Шэры кот», «Вожык».

Хлопчыкі ў гульнявым атракцыёне «Быць адважнымі хочам!» паказалі, якія яны хуткія, смелыя, спрытныя.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-садка №13 Смаргоні.**




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Алея Ганаровых грамадзян у Вілейцы.

# «Важна, што побач са мной – краязнаўца Анатоль Рогач»

## Барыс Цітовіч – пра адкрыццё алеі Ганаровых грамадзян Вілейшчыны

**ВІЛЕЙКА**

**Другога ліпеня ў цэнтры Вілейкі адкрылі алею Ганаровых грамадзян раёна.**



Фота з сайта Вілейскага райвыканкама.

Выступае Ганаровы грамадзянін Вілейшчыны Барыс Цітовіч.

Тут фотаздымкі дзеячаў культуры і мастацтва, вайскоўцаў, педагогаў, краязнаўцаў.

Як распавялі «Рэгіянальнай газеце» ў Вілейскім райвыканкаме, на алеі прадстаўлена 14 чалавек. Асабліва шмат дзеячаў культуры і ветэранаў Другой сусветнай.

Ганаровых грамадзян абіралі ў адпаведнасці з дакументам – Палажэннем аб парадку прысваення звання «Ганаровы грамадзянін Вілейскага раёна».

### Для каго зрабілі выключэнні

Згодна з дакументам, званне, як правіла, даюць чалавеку, які адпрацаваў на Вілейшчыне не менш за 20 год.

Аднак для некаторых рабілі выключэнне. Напрыклад, для такіх асоб, як скульптар **Уладзімір Слабодчыкаў**, народны артыст **Міхаіл Казінец**.

Бо яны, хоць і не жывуць на Вілейшчыне, але праслаўляюць гэты край сваёй дзейнасцю.

На алеі фотаздымкі краязнаўца **Анатоля Рогача**, ветэрана Другой сусветнай і педагога **Ганны Андрэевай**, ветэрана, вайскоўца **Анатоля Нікалаева**, аграрыя **Мікалая Шайко**.

### Барыс Цітовіч: Мае ўзнагароды – нібыта ўзнагароды бацькі, да якіх ён не дажыў

Ёсць на алеі і партрэт мастака, былога навуковага супрацоўніка Вілейскага краязнаўчага музея, гаспадара музея Першай сусветнай у Заброддзі **Барыса Цітовіча**. Мастак прысутнічаў на адкрыцці алеі і выступаў.

Мы звязаліся з Барысам Барысавічам і папрасілі сказаць некалькі слоў з гэтай нагоды.

– Сітуацыя была нечаканай. Ніхто не папярэджваў. Канешне, гэта важны момант для выхавання маладога пакалення. Для мяне ж важна тое, што побач з маім партрэтам – здымкі дастойных людзей, якіх ужо няма ў гэтым свеце. Напрыклад, палкоўнік **Міхаіл Львіцын**, які загінуў пры вызваленні Вілейкі 2 ліпеня 1944 года і пахаваны ў вілейскай зямлі. Мой добры сябар, краязнаўца Анатоль Рогач, які шмат зрабіў для Вілейшчыны, – распавёў Барыс Цітовіч.

А яшчэ мастак адзначыў, што ўсе свае ўзнагароды і знакі пашаны адносіць да свайго бацькі, ветэрана Другой сусветнай, які прайшоў усю вайну і памёр у 47 год.

– Бацька не дажыў да юбілейных узнагарод. Іх пачалі даваць ад 1965. Меў толькі баявыя, – падзяліўся Барыс Барысавіч.

Ён лічыць, што адкрыццё алеі Ганаровых грамадзян у дзень вызвалення Вілейкі – вельмі правільны крок.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Кібербулінг мае дзіцячы характар. Як інтэрнэт ператварыўся ў небяспечнае месца

**З развіццём інфармацыйных тэхналогій і сродкаў сувязі з'явіўся такі выгляд гвалту, як кібербулінг. Кібербулінг – прыніжэнне або цкаванне з дапамогай электронных прылад.**

Такі від цкавання адбываецца ў інтэрнэце з дапамогай мабільных тэлефонаў або камп'ютараў. Зладзеі выкарыстоўваюць электронную пошту, мэсенджары.

Псіхолаг **Алег Гурын**, які працуе з псіхалагічнымі траўмамі, распавядае, што ў сваёй практыцы не сустракаўся з ахвярамі кібербулінгу. Гурын перакананы, што такая праблема існуе ў Беларусі, але не ўспрымаецца як цкаванне.

– Напрыклад, да мяне звярталіся дзяўчаты, расказвалі пра сайты знаёмстваў. Інтэрнэт заўсёды напоўнены людзьмі, якія прапануюць здзейсніць розныя непрыстойныя дзеянні. Гэта і ёсць адна з форм кібербулінгу, але дзяўчаты гэта такім чынам не ўспрымаюць.

### Кібербулінг адрозніваецца ад цкавання ў «рэале»

У адрозненне ад цкавання ў рэальным жыцці, кібербулінг бесперапынны. Сацыяльныя сеткі сталі неад'емнай часткай жыцця сучаснага чалавека.

Прыніжэнні ў «рэале» абмежаваныя па часе, а цкаванне ў сецціве гэтых абмежаванняў не мае. Большая частка інфармацыі, якая перадаецца ў электронным выглядзе, з'яўляецца пастаяннай і публічнай. Тое, што з'яўляецца ў інтэрнэце, назаўсёды там застаецца. Таксама і ў тых выпадках, калі нейкую інфармацыю выдалілі.

Ахвяра заўсёды знаходзіцца пад ціскам з боку крыўдніка. Часцей за ўсё людзі не ведаюць, хто з іх здзекуецца. Праваабаронца **Эдуард Баланчук** распавядае, што галоўнай рысай кібербулінгу ёсць ананімнасць. Чалавек не заўсёды можа самастойна даведацца пра асобу крыўдніка.

– Гэта не галубіная пошта і не звычайная пошта. Усё можна знайсці ў інтэрнэце, і ўсё гэта імгненна распаўсюджваецца. Звычайна цяжка распазнаць і адсачыць, таму што ў большасці выпадкаў кібербулінг ананімны, але ўсё магчыма. У гэтым накірунку павінна працаваць і інспекцыя па справах непаўналетніх, калі гэта датычыцца дзяцей, – кажа Баланчук.

### Дзеці з'яўляюцца менш абароненай групай ад кібербулінгу

У 2017 годзе дзве арганізацыі ў Злучаных Штатах аналізавалі, колькі школьнікаў і студэнтаў пакутуюць ад кібербулінгу кожны год. Каля 15% дзяцей былі ахвярамі цкавання ў інтэрнэце.

**Алег Гурын кажа, што для таго, каб справіцца з псіхалагічнай траўмай, патрэбныя пэўныя рэсурсы, якіх у маладой псіхікі мала.**

– Дарослы чалавек вучыцца спраўляцца з абясцэньваннем ці прамой агрэсіяй. Калі псіхіка не схільная да паталагічных і псіхічных расстройстваў, то чалавек здольны самастойна перажыць траўму. Дзіцячая псіхіка ўладкаваная па-іншаму. Калі дзіця сустракаецца ў інтэрнэце з агрэсіяй ці абясцэньваннем, то ўспрыманне свету будзе ў яго зусім іншае.

Па штогадовых даследаваннях ЮНЕСКА, дзеці і падлеткі, якія сутыкаюцца з булінгам і кібербулінгам, больш схільныя да рызыкоўных паводзінаў: эксперыментаў з псіхаактыўнымі рэчывамі і алкаголем, небяспечнымі сэксуальнымі адносінамі. І, як следства, больш схільныя да рызыкі сутыкнуцца з непажаданай цяжарнасцю, ВІЧ і інфекцыі, што перадаюцца палавым шляхам.

– Кібербулінг носіць больш дзіцячы характар. Цкаванне трэба спыняць у самым пачатку. Гэта павінна быць аператыўная праца псіхолагаў у школах і таксама бацькоў. Наступствы могуць быць вельмі нядобрыя. Людзі, якія сутыкаюцца з гэтай праблемай, проста не падрыхтаваныя маральна, – распавядае Баланчук.

## Чатыры парады ахвяры кібербулінгу

**Каардынатар праектаў ЮНЕСКА па інфармацыйных тэхналогіях у адукацыі Юлія Плахуціна дала простыя парады, як абараніць сябе ад цкавання**

1. Наладзіць рэжым прыватнасці, каб адпраўляць паведамленні або каментаваць вашы запісы маглі толькі сябры.

2. Не публікаваць у сацыяльных сетках сваю асабістую інфармацыю (адрас, нумар тэлефона і г.д.).

3. Паведаміць адміністрацыі сацыяльнай сеткі аб абразе ў ваш адрас. Можна паскардзіцца як на самога хама, так і на непрыстойныя відэа, фота і каментары.

4. Адправіць крыўдніка ў чорны спіс, каб ён не мог атрымаць доступ да вашай старонкі.

Рэгіянальная газета. Rh.by

Інфаграфіка Ігара ПАЛЫНСКАГА.

### Кібербулінг актыўна даследуюць

Па ўсім свеце актыўна вядуцца даследаванні кібербулінгу. У 2016 годзе камітэт Еўрапейскага Саюза праводзіў спецыяльны аналіз па цкаванні ў інтэрнаце у краінах-удзельніцах. Амерыканскія і брытанскія сацыёлагі праводзяць такія даследаванні штогод.

**У 2016 годзе Камітэт Еўрапейскага парламенту па грамадзянскіх свабодах, правасуддзю і ўнутраных справах апублікаваў вялікую справаздачу па інтэрнэт-цкаванні. У ёй апісаныя асноўныя віды кібербулінгу.**

**Выключэнне** – гэта форма кібербулінгу аналагічная байкоту: ахвяру наўмысна выключаюць з адносін і камунікацыі.

**Дамаганнем** называюць пастаяннае і наўмыснае здзекаванне пры дапамозе абразлівых або пагрозлівых паведамленняў, адпраўленых асабіста адным чалавекам або часткай якой-небудзь групы.

**Грыфінг** – здзекі з чалавека ў камп'ютарнай гульні ці ў віртуальным свеце.

**Тролінг** – пастаянныя абразлівыя каментары на сайце.

**Кібер-сталкінг** – уключае ў сябе пастаянную пагрозу і дасыланне грубых паведамленняў.

**Кібер-пераслед** – бесперапыннае і паўторнае дамаганне, абразы і пагрозы.

**Маскарад** – сітуацыя, калі хуліган прыкідваецца іншым чалавекам для праследу сваёй ахвяры.

**Фрэйпінг** – змяненне дэталяў на чужой старонцы ў сацыяльных сетках, калі людзі пакідаюць свой профіль адкрытым.

**Аўцінг** адбываецца, калі асабістая і прыватная інфармацыя, фатаграфіі ці відэа пра каго-небудзь распаўсюджваюцца публічна без дазволу.

**Трыкінг** адбываецца, калі нехта падманвае каго-небудзь у раскрыцці таямніц або няёмкай інфармацыі, якая затым распаўсюджваецца ў інтэрнэце.

**Сэкстынг** – распаўсюджванне сэксуальных вобразаў праз мабільныя тэлефоны або інтэрнэт без згоды чалавека.

**Хэпі слэпінг** – агрэсіўныя ці прыніжальныя паводзіны, якія запісваюць назіральнікі, а відэа перадаюць на іншыя тэлефоны ці размяшчаюць на сайце.

**Пагрозы** – нанясенне шкоды існуючым адносінам, якія праяўляюцца ў пагрозе сям'і, пагрозе фізічнага гвалту і пагрозе смерцю.

**Флэймінг** – адпраўка гвалтоўных або вульгарных паведамленняў. Адрозніваецца ад дамаганняў тым, што флэймінг – гэта анлайн-спрэчка, дзе даказваюць свой пункт гледжання ў агрэсіўнай манеры з выкарыстаннем ілюстрацый і вялікіх літар.

### Як засцерагчы дзіця ад кібербулінгу

Лепшы спосаб прадухіліць кібербулінг – падрыхтаваць дзіця да ўзаемадзеяння ў свеце.

• Пагаварыце з вашым дзіцем аб тым, што такое кібербулінг;

• абмяркуйце з дзіцем, што рабіць, калі яно адчувае пагрозу;

**• практыкуйце сацыяльныя навыкі з вашым дзіцем, якія могуць дапамагчы яму ў інтэрнэце;**

• навучыце дзіця паважаць і спачуваць іншым у інтэрнэце;

• даведайцеся, якія прылады і тэхналогіі выкарыстоўвае ваша дзіця;

• не пакідайце электронныя прылады ў спальні вашага дзіцяці, дзе іх можна выкарыстоўваць без нагляду.

Рэспубліканская тэлефонная «гарачая лінія» па аказанні псіхалагічнай дапамогі непаўналетнім, якія трапілі ў крызісную сітуацыю: **8 801 100-16-11.**

Экстранная псіхалагічная дапамога «Тэлефон даверу»: **8 017 352-44-44.**

Згодна з артыкуламі 152 і 153 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, чалавек, якога абразілі, можа звярнуцца ў суд з іскавай заявай аб абароне гонару і годнасці. Для доказу факту абразы ў інтэрнэце трэба прадставіць скрыншот (здымак старонкі) з крыўднымі словамі.

**Настасся УТКІНА.**

**Калі вы сталі ахвярай кібербулінгу і хочаце падзяліцца сваёй гісторыяй, звяжыцеся з «РГ» па электроннай пошце regionnews@rh.by.**

*Матэрыял створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый, CityDog.by, vitebsk4.me, часопіса «Бінокль» і «РГ».*


Фота Андрэя РАПІНСКАГА.

Святочнае шэсце ў парку Перамогі ідзе ў амфітэатр.


Фота Андрэя РАПІНСКАГА.

Людзі глядзяць выступленне артыстаў падчас святочнага канцэрта.


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Купальскае вогнішча.


Фота Андрэя РАПІНСКАГА.

Дзяўчына з вянком.


Фота Андрэя РАПІНСКАГА.

Выступленне на сцэне амфітэатра.

# У Маладзечне справілі Купалле з вянкамі, фаер-шоу і вогнішчам

**6 ліпеня ў амфітэатры гарадскога парку ў Маладзечне прайшло свята «Ой, як на Купала сонца зайграла».**

Работнікі Палаца культуры арганізавалі дзіцячую гульнявую забаўляльную праграму для дзяцей. Супрацоўнікі Маладзечанскай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы правялі гульнявыя пазнавальныя мерапрыемствы.

Асноўная праграма свята пачалася на пляцоўцы каля цэнтральнага ўвахода ў парк Перамогі. Адтуль удзельнікі святочнага канцэрта шэсцем прайшлі да амфітэатра. На яго сцэне выступілі ўдзельнікі народнага гумарыстычнага калектыву «Смехата» Ільянскага сельскага Дома культуры Вілейскага раёна, удзельнікі тэатра песні «Мерыдыян» Палаца культуры, роставыя лялькі.

Пасля святочнага выступлення на востраве ў вадаёме парку адбылося фаер-шоу. Купальскае свята традыцыйна завяршылася распальваннем вогнішча.

**Пяць фактаў пра Купалле**

1) Купалле звязанае з летнім сонцастаяннем. Па Юліянскім календары Купалле адзначаюць у ноч на 24 чэрвеня. Па Грыгарыянскім – з 6 на 7 ліпеня.

2) У найбольш старажытным выглядзе Купалле захавалася менавіта ў беларусаў. Украінцы таксама захавалі асноўныя элементы, але яно стала вясёлым моладзевым гулянням. Рускімі купальскі рытуал забыты або перанесены на іншыя святы.

3) Паводле народных павер'яў, ноччу зацвітае папараць-кветка. Хто знойдзе яе, той атрымае здольнасць бачыць схаваныя ў зямлі скарбы і разумець мову звяроў.

4) На старым гербе Маладзечна, які зрабілі да 600-годдзя горада ў 1988 годзе, была папараць-кветка.

5) Асаблівасць беларускага пашпарта ў тым, што пры прасвечванні ўльтрафіялетам на старонках з'яўляецца галінка папараць-кветкі.

**Настасся УТКІНА.**

## «Смаргонь» прайграла на выездзе

«Смаргонь» адправілася на выхадных у Смалявічы да лідара першай лігі. Смаргонцы не вельмі ўдала пачалі чэмпіянат цяперашняга сезона, а на дадзены момант знаходзяцца на перадапошнім месцы ў турнірнай табліцы. Вызначная сустрэча са «Смалявічамі» завяршылася мінімальнай паразай з лікам **1:0**. Гол забіў **Аляксей Вакуліч**.

## ФК «Маладзечна» буйна саступіў «Івацэвічам»

ФК «Маладзечна» завяршыў гэту футбольную суботу паразай ад «Івацэвічаў» з лікам **3:0**. Аўтары галоў: **Юры Ліцкевіч**, **Антон Дзямкоў**, **Дзмітры Пятроўскі**. Маладзечанская каманда знаходзіцца на шостым месцы турнірнай табліцы.

## Футбалісты «Андэрдога» забілі шэсць галоў

Чысцінскі «Андэрдог» адзначыў буйную перамогу над «Горкамі» 6:0. Галы забілі: **Мікіта Мятліцкі** (з пенальці), **Аляксей Кашэўскі**, **Дзяніс Галацукаў**, **Аляксей Бялевіч**, **Аляксей Кашэўскі**, **Максім Чыжэўскі**. «Андэрдог» цяпер на чацвертым месцы.

## «Ашмяны» перамаглі ў дзясятай гульні запар

«Ашмяны-БДУФК» зноў дамагаюцца перамогі. Гэтым разам ашмянцы перамаглі «Энергетыка» з лікам **4:0**. **Арсень Канцедайлаў**, **Дзяніс Хадаронак**, **Аляксей Маліноўскі**, **Яўген Пракопчык** забілі галы за ашмянскую каманду ў гэтым матчы. Такім чынам, «Ашмяны-БДУФК» займаюць другое месца ў чэмпіянаце.

## Амерыканцы правялі баскетбольны лагер у Валожыне

19-23 чэрвеня амерыканскія спецыялісты займаліся з маладымі беларускімі баскетбалістамі ў рамках праграмы Дзяржаўнага дэпартамента ЗША па культурна-спартыўным абмене.

У рамках гэтай праграмы ў мінулым снежні беларускія трэнеры праходзілі трэнінг на тэрыторыі Злучаных Штатаў. «Крок у будучыню» – працяг праграмы супрацоўніцтва Беларускай федэрацыі баскетбола з амерыканскімі калегамі.

Галоўнымі лектарамі лагера сталі спецыялісты **Крыс Дыял** і **Юсцін Бэры**, якія прадстаўляюць арганізацыю «Баскетбольная амбасада». Склад гульцоў-удзельнікаў праекта быў сфарміраваны галоўнымі трэнерамі зборных Беларусі ва ўзроставай катэгорыі да 14 гадоў – **Эдуардам Кеменам** і **Вікторыяй Дацун**.

У лагер былі запрошаныя сем галоўных трэнераў-пераможцаў ДЮБЛ сезона 2018-2019 і тры маладыя спецыялісты, якія праявілі сябе па выніках года і рэкамендаваныя Галоўнай суддзейскай калегіяй лігі.

**Настасся УТКІНА.**

## Астравецкая каманда перамагла ў конкурсе «Байкер-2019»

Каманда з Астраўца перамагла ў другім этапе міжрэгіянальнага мотаконкурсу.

«Змейка» на праверку навыкаў кіравання, эстафета на матацыклах і без іх, конкурс на самае хуткае штурханне напарніка па камандзе, які сядзіць на заглушаным двухколавым кані, заданні на шпаркасць, кемлівасць, спрыт і асцярожнасць – каманды змаглі паказаць усё, на што здольныя.

На практычным этапе конкурсу «Байкер-2019» быў узнагароджаны пераможца інтэрнэт-галасавання, якое адбывалася на старонках газеты «Астравецкая праўда» у сацыяльных сетках. Найбольшую колькасць лайкаў набрала каманда «Мотасуполка Навагрудак». Прыз за самую арыгінальную назву атрымала ашмянская каманда «Гарачыя суппорта». Смаргонцам зусім крыху не хапіла да трэцяга месца, на якім заглушыла маторы ашмянская каманда. На другое месца заехала, дзякуючы перамозе ў дадатковым конкурсе на самую павольную язду, каманда Навагрудка. Першае месца засталося за астравецкімі байкерамі.

**Паводле ostrovets.by.**




Фота bfla.eu.

Шарлота Паэглітэ на спаборніцтвах чэмпіянату Беларусі, дзе яна выканала нарматыў майстра спорту Беларусі.

# Смаргонка з латышскімі каранямі заваявала срэбраны медаль па шматбор'і

**Шарлота Паэглітэ нарадзілася ў Рызе (Латвія). Яе бацька латыш, а мама беларуска. Дзяўчына пераехала разам з бацькамі на радзіму маці, сям'я засталася жыць на Смаргоншчыне. У спорт Шарлота прыйшла ў дзяцінстве. Па яе словах, гэта было вельмі даўно, хоць дзяўчыне споўнілася толькі 20 год.**

### Выступленне Шарлоты Паэглітэ на чэмпіянаце Еўропы па шматбор'і (Украіна, 2019 год)

| | |
|---|---|
| 100 метраў з бар'ерамі | 14,39 секунды |
| Скачкі ў вышыню | 1 м 66 см |
| Штурханне ядра | 10 м 12 см |
| Бег на 200 м | 25,48 с |
| Скачкі ў даўжыню | 5 м 64 см |
| Кіданне дзіды | 30 м 35 см |
| Бег на 800 м | 2 хв. 17,04 с. |

### Усё жыццё займалася лёгкай атлетыкай

Паэглітэ займалася рознымі відамі лёгкай атлетыкі: спрынт, скачкі ў даўжыню і вышыню. Да восьмага класа яе першым трэнерам быў **Дзмітры Жук**.

**На абласных спаборніцтвах Шарлоту заўважыла Алена Стасюкевіч, якая працавала з маладымі спартсменамі ў вучылішчы алімпійскага рэзерву (ВАР) у Гродне.**

Стасюкевіч прапанавала маладой лёгкаатлетцы пераехаць са Смаргоні ў гродзенскі ВАР. Шарлота пагадзілася і з таго часу займаецца выключна шматбор'ем.

**У 2017 годзе, калі Шарлота вучылася ў адзінаццатым класе, яна выканала нарматыў майстра спорту Беларусі.**

Неаднаразова яна станавілася пераможцам і прызёрам рэспубліканскіх спаборніцтваў, прымала ўдзел у чэмпіянаце Еўропы, станавілася прызёрам матчавай сустрэчы паміж камандамі Беларусі, Украіны, Расіі і краін Балтыі.

### Паэглітэ прывязе з Украіны медаль

6-8 ліпеня ва ўкраінскім Луцку прайшоў каманды чэмпіянат Еўропы па шматбор'і. На ім выступіла і Паэглітэ. Беларуская зборная па шматбор'і завяршыла выступленне на міжнародных спаборніцтвах на другім месцы. Першае месца заняла зборная Эстоніі. Смаргонка ўнесла важкі ўклад у агульнае дасягненне каманды, набраўшы 5198 ачкоў. Спартсменка заваявала срэбраны медаль.

– Мне спадабалася ў Луцку. Вядома, чакала ад сябе лепшага выступлення. Але не атрымалася крыху. Устанавіла новы асабісты рэкорд на 800 метраў, і гэта радуе.

**Беларуская каманда была вельмі згуртаваная і дружная. Усім дзякуй за падтрымку! – падзякавала заўзятарам Паэглітэ.**



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Футарал для пісталета або рэвальвера.
3. Могілкі ў Маладзечанскім раёне, дзе пахаваны Юльян Бакшанскі.
6. Рух рукі, галавы, які суправаджае або замяняе чалавечую мову.
8. Электрычны апарат для абмежавання велічыні току кароткага замыкання ў ланцугах пераменнага току.
9. Магчымая небяспека, пагроза.
10. Ліпкае рэчыва, якое выкарыстоўваюць для трывалага замацавання.
11. Салёная вада з вострымі прыправамі для засолкі, вымочвання харчовых прадуктаў.
12. Мастак, які аформіў дэбютны зборнік вершаў Канстанцыі Буйло «Курганная кветка».
14. Род расліны, да якога адносіцца дрэва ў афрыканскай пустыні Тэнэрэ. Гэта дрэва назвалі самым самотным на планеце. А пасля яго знішчэння ў 1973 годзе ў гонар дрэва ўсталявалі помнік.
17. Нняркі, пацямнелы.
18. Будаўнічы матэрыял, атрыманы з зацвярдзелай сумесі пяску, шчэбеню, жвіру з цэментам і вадой.
22. Невялікая лёгкая будынiна для дробнага гандлю.
23. Мнагастворчатыя аканіцы, а таксама шторы са звязаных паміж сабой пласцінак, якія скарыстоўваюцца для рэгулявання светлавой і паветранай плыні.
27. Горад, дзе згубілі след Крыжа Еўфрасінні Полацкай.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. З гэтага матэрыялу ў Старажытным Кітаі выраблялі веееры, парасоны, ліхтарыкі.
4. Упрыгожанне, падвеска на ланцужку кішэннага гадзінніка, бранзалета.
5. Жыхары Мядзела пасля некалькіх эпідэмій чумы і халеры перасяліліся на паўночны бераг гэтага возера.
6. Гульня, у якой адзін з удзельнікаў з завязанымі вачамі ловіць астатніх.
7. Якую функцыю выконваў спрасаваны ў цаглінкі чай у Кітаі?
13. Воін.
15. Ужываецца гукапераймальна для абазначэння характэрных гукаў свіней.
16. Вакальна-інструментальны ансамбль, які стварыў Уладзімір Мулявін у 1968 годзе.
18. Пасудзіна, звычайна для шыпучых він, у выглядзе вялікай чаркі.
19. Спадчыннік маёнтка, які належаў бацьку бацькі.
20. Поўны жыццёвых сіл; бадзёры, рухавы.
21. Музычны твор у рытме, стылі і тэмпе музыкі да такіх рухаў.
24. У літоўскім пасёлку Маседысе стварылі музей. Экспанаты дадаюць клопатаў сялянам. Што гэта за экспанаты?
25. Група людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі, агульнай дзейнасцю.
26. Гэта жывёла атрымала назву дзякуючы кур'ёзу. Джэймс Кук запытаўся ў мясцовага жыхара, як жывёла называецца, на што абарыген адказаў «Не разумею». Кук жа прыняў адказ за назву. Гэтым словам жывёлу называюць і сёння.
28. Апарат для падаграавання вады.

## Адказы на крыжаванку з №27

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Трыко. 2. Частка. 5. Чуткі. 7. Набат. 8. Папараць. 9. Табліца. 11. Фол. 12. Чарга. 13. Уладзіслава. 16. Нехта. 17. Брыво. 19. Кізіл. 21. Доказ. 22. Грае. 23. Чароўны. 25. Нахіл.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Трэска. 2. Чужы. 3. Навука. 4. Бойкі. 6. Біятлон. 10. Пальмы. 14. Турма. 15. Бразгат. 17. Бланк. 18. Мозг. 20. Сакрат. 24. Наваколле.

● СПАРТЫЎНЫ ГАРАСКОП

**Для кожнага знака задыяка ёсць свае пажаданні па спартыўных практыкаваннях. Калі фізкультура доўгі час не прыносіць жаданага выніку, паспрабуйце займацца тым спортам, які раяць зоркі.**


**АВЕН.** Як і ўсе прадстаўнікі стыхіі Агню, вы вельмі актыўныя і смела адчуваеце сябе ў камандзе. Вы прагнеце праявіць лідарскія якасці, і яны яскрава і эфектыўна могуць праявіцца ў спорце. Валейбол, футбол, баскетбол, хакей – тут вы можаце не толькі трымаць сябе ў форме, але і атрымаць сапраўдную псіхалагічную разгрузку.

**ЦЯЛЕЦ.** Вы гатовыя спаборнічаць, але адказваць хацелі б толькі за сябе. Найбольш вам падыходзяць плаванне, фігурнае катанне, паўэрліфтынг, бег, ровары або лыжы.

**БЛІЗНЯТЫ.** Біятлон, фехтаванне, стральба, лёгкая атлетыка, тэніс – гэтыя віды спорту задаволяць вашы фізічныя патрабаванні і будуць цалкам раскрываць вашу натуру.

**РАК.** Віды спорту, дзе трэба спаборнічаць, не падыходзяць вам. Трэба тыя, якімі можна займацца сам-насам ці з трэнерам – ёга, фітнес, пілатэс. Для вытанчаных натур спорт – гэта шлях да гармоніі і раскрыцця ўсіх магчымасцяў асобы.

**ЛЕЎ.** Без спорту Львы адчуваюць сябе кепска. Напэўна, ніхто не мае такога спартыўнага патэнцыялу, як вы. І любы накірунак будзе вам спрыяць. А найлепшы варыянт – дзе можна адкрыта супрацьстаяць. Бокс, барацьба, фехтаванне.


**ДЗЕВА.** Для вас падыдзе такая фізічная актыўнасць, дзе не трэба нікога абганяць. Пакатацца на конях, паплаваць, патанцаваць – але без саперніцтва. Хіба толькі ў шахматах вам спадабаецца змагацца за перамогу.

**ШАЛІ.** Для вас падыдзе ўсё, што звязанае з мячом і скачкамі – тэніс, валейбол, баскетбол.

**СКАРПІЁН.** Вам важна даказваць, што вы моцныя, вынослівыя і не баіцеся выклікаў. Бег, ровары, мота- і велагонкі, барацьба, а таксама камандныя віды – усё гэта для вас больш, чым проста спорт.

**СТРАЛЕЦ.** Вам мала толькі фізічных практыкаванняў, вам патрэбны прыгоды. Паходы, дайвінг, пад'ём у горы, палёты і скачкі з парашутам – тут вы проста расцвітаеце.

**КАЗЯРОГ.** Баявыя віды спорту, веласпорт і водныя працэдуры – дакладна тыя сферы, дзе вас чакае поспех.

**ВАДАЛЕЙ.** Вам дакладна не падыдзе сфера, дзе патрэбная жорсткая дысцыпліна. Вам трэба не столькі вынік, колькі працэс, вы займаецеся не для спорту, а для гульні і азарту. Таму абірайце прыгоды або тыя сферы, дзе можна імправізаваць.

**РЫБЫ.** Безумоўна, ваша стыхія – Вада. Усе віды спорту, звязаныя з вадой, самі просяцца да вас у рукі. Паспрабуйце, не пашкадуеце.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 4 | 7 | 5 | |
| | | | | | | 2 | | 8 |
| | | | 2 | | | | 1 | 3 |
| 1 | 9 | | | | 3 | | | |
| | | 4 | | 6 | 9 | | | |
| 5 | | 6 | 1 | | 7 | | | |
| 7 | 5 | | | | 6 | 1 | | |
| | | 3 | | 9 | | | 8 | 4 |
| 9 | | | 8 | | | 6 | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Прадаецца рускі блакітны кот. Без дакументаў.

***

Прадаю каляску для нованароджанага сіняга колеру.

***

Прадаюцца тры парасяці. Усе розная полу.

***

Прадаюцца чатыры гусыні і гусак. Усе нясуцца.

***

Абіваем дзверы скурай заказчыка.

***

Зубы? Нашы стаматолагі зробяць усё, каб вы назаўсёды забылі пра іх.






# Запрашаем на роварны фэст ад «Рэгіянальнай газеты» ў Вілейцы

Свята для тых, хто сімпатызуе актыўнаму, здароваму і экалагічнаму ладу жыцця, адбудзецца 14 ліпеня.

Пачатак а 15 гадзіне.

**У праграме:**

• Майстар-клас з экспертам Мінскага роварнага таварыства «Як даглядаць веласіпед, каб ён доўга і добра служыў».

• Роварны квэст па Вілейцы.

• Экалагічны пікнік.

• Музыка і гульні.

Хаця гэта свята для веласіпедыстаў, удзельнічаць можна і пешаходам. Для ўдзелу, калі ласка, зарэгіструйцеся ў форме па спасылцы **bit.ly/rovarfest** або адсканўйце наступны QR-код.



## Чытайце праз тыдзень

● **У дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры «Надзея» адбылося адкрыццё першай летняй змены «Зялёных школ». Гэта экалагічны рух, які дапамагае маладым людзям зразумець неабходнасць ладу жыцця, дружалюбнага прыродзе. Вада, паветра, біяразнастайнасць, адходы – пра экалагічны падыход да гэтых сфер чытайце праз тыдзень.**

## 13 ліпеня, субота

**Вецер:** усходні, 3-4 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +7,7°С у 1974 годзе
Максімальная тэмпература +34°С у 1959 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 36,1 мм у 2016 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Кроч у лета з «Рэгіянальнай газетай»!

**Падпісацца на «РГ» можна:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Які ваш любімы ласунак?



**Алег Пякарскі, будаўнік:**

– Я вялікі ласун, магу з'есці ўсё, што смачна. Але больш за ўсе падабаецца частавацца пернікамі ў кампаніі добрага сябра.



**Ульяна Лінок, школьніца:**

– Перавагу аддаю ледзянцам, асабліва чупа-чупсу. Яны дапамагаюць мне абысціся без жвачкі, якая, на мой погляд, больш шкодная для нашага арганізма, чым цукеркі.



**Анастасія Зорка, прадпрымальнік:**

– Калі многа работы, то стараешся з'есці нешта больш істотнае. Але час ад часу магу з'есці эклер з тваражным крэмам, пірожнае «Бульба». Мне падабаецца іх кансістэнцыя і тое, што не вельмі салодкія.



**Аляксей Мінчуковіч, студэнт:**

– Мой любімы ласунак – малочны шакалад. Ён заўсёды зараджае энергіяй. Акрамя таго, участкі галаўнога мозга стымулюе больш інтэнсіўна і доўга.



**Аляксандра Грачанік, кухар:**

– У зефіра чароўны смак. Калі ты яго ясі, адразу адчуваешь лёгкасць. Яшчэ ў гэтай смакаце ёсць пекцін, што вельмі карысна для імуннай сістэмы.



**Таццяна Раманоўская, пенсіянерка:**

– Салодкага стараюся не есці, бо мне забаронена. Канешне, калі-нікалі магу дазволіць сабе пару кавалачкаў шакаладкі. Часцей за ўсё, замяняю салодкае арэхамі, сушкамі і любімай садавінай.



**Глеб Рудзько, школьнік:**

– З усіх ласункаў больш за ўсе люблю торты. Гэты дзіўосны дэсерт магу зрабіць сам, часта атрымліваю заказы і, вядома, частую родных. Часам на кухні з'яўляюцца традыцыйныя торты, але эксперыментаваць таксама падабаецца.

**Падрыхтавала Ірына БУБНОВА, факультэт журналістыкі БДУ.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№28 (1263) 12.07.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1078. Падпісана ў друк у 9.00 11.07.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.